ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 45 (1800) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 11 ЛІСТАПАДА 1990 г. ЦАНА 600 зл.



Так выглядае Беларускі цэнтр у кліўлендскім „Полацку".

## XIX СУСТРЭЧА АМЕРЫКАНСКІХ БЕЛАРУСАЎ

— Хто ў каго бярэ інтэрв'ю? — спытаўся праходзячы побач паэт Генадзь Бураўкін, старшыня Беларускай місіі пры ААН, калі я якраз адказвала на пытанні Зоры Кіпель наконт першых уражанняў аб сустрэчы.

— Гэта сапраўды сусветны з'езд беларусаў, — сказала я ёй тады. — Мы мала што памыліліся, звяртаючыся па візу ў амерыканскае пасольства, калі напісалі, што будзе гэта менавіта сусветны з'езд.

Людзі з'ехаліся не толькі з Паўночнай Амерыкі, гэта значыць са Злучаных Штатаў і Канады, але і з Беларусі, з Віленшчыны, з Беласточчыны, з Англіі, Францыі і Германіі... Для беларусаў Паўночнай Амерыкі такія з'езды, якія адбываюцца кожныя два гады, гэта сапраўднае свята. Ці чалавек паехаў бы ў другі канец Амерыкі кагосьці наведваць?! А вось спадарства Вінніцкія і Вітаўт Тумаш прыехалі аж з Каліфорніі, з Лос-Анжэлеса. І палічыце, колькі тут кіламетраў. А вось маці сямі дачок прыехала з Кентакі, дзе пра беларусаў амаль не чуваць. Узяла з сабой наймалодшую дачку і прыехала...

Не надта ўяўляю сабе, як выглядалі ранейшыя сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі,

(Працяг на стар. 6)



Старшыня Беларускай місіі пры ААН уручае Беларускаму цэнтру партрэты Янкі Купалы і Якуба Коласа.

## ШТО ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ?

15 кастрычніка ў Мінску прайшлі перамовы міністраў замежных спраў БССР і Польшчы — Пятра Краўчанкі і Кшыштофа Скубішэўскага. Мелася быць падпісана дэкларацыя аб супрацоўніцтве і добрасуседскіх адносінах, але падпісана не была. Польская прэса, амаль у адзін голас, назвала дыпламатычную місію міністра Скубішэўскага (дзе-нідзе ўпаміналася аб „дыпламатычнай афензіве") фіяскам. Звернем увагу, што падобныя па змесце і тоне дэкларацыі былі падпісаны польскім міністрам у Маскве і Кіеве. Здавалася б, перамовы ў Мінску — не болей, чым фармальнасць...

Каментарыі ў беластоцкай прэсе, зараз жа пасля міністэрскага візіту, былі аднабаковымі. Асабліва акцэнтавана была пастава беларускага боку ў дачыненні да беларускага пытання на Беласточчыне, усе зацытавалі сказанае Зянонам Пазняком на сустрэчы міністэрскай дэлегацыі з апазіцыяй у беларускім парламенце: „Беласточчына з'яўляецца этнічна беларускай зямлёй". Камюніке польскага прэсавага агенцтва паведамляла, што беларускі бок меў засцярогі да сцверджання ў праекце дэкларацыі пра непарушнасць дзяржаўнай мяжы і адкінуў пункт, у якім абодва бакі спасылаюцца на савецка-польскую дамову аб дзяржаўнай мяжы ад 16 жніўня 1945 г. Словам — у беластоцкіх мас-медыях жах і істэрыка. Во, беларусы дамагаюцца перагляду пытання аб межах...

Выказванні абодвух міністраў пасля заканчэння візіту былі памяркоўныя ў тоне і, можна сказаць, аптымістычныя. Абодва бакі рашылі адкласці падпісанне дэкларацыі і правесці далейшыя размовы (на гэты раз у Варшаве). Беларускі бок прапанаваў польскаму падрыхтаваць і падпісаць дзяржаўны трактат — дакумент непамерна значнейшай дыпламатычнай і юрыдычнай вагі, чым дэкларацыя.

Я не здзіўляюся ні трохі, што сэнс дыпламатычнага спаткання ў Мінску і таго, што там сталася, пакуль што недасягальны для беластоцкіх журналістаў. Загледжаныя на Захад, ахопленыя турботаю, чаму ж гэта Еўропа не хоча прыняць у сваё ўлонне Рэчпаспалітую Польскую, яны і думкі не дапускаюць, што дзяржава ў той шлях

(Працяг на стар. 2)

## На мяжы

— 12 —

# Ад пачуцця сораму да пачуцця гонару

У сённяшняй Беларусі, як грыбы пасля дажджу, узнікаюць розныя арганізацыі. Ёсць іх многа, але будзе яшчэ больш. Пакуль што большасць з іх прызнаецца да сваяцтва з Беларускім народным фронтам „Адраджэнне". У будучым наступяць глыбокія падзелы, а нават барацьба паміж тымі, хто сёння прапагандуе еднасць і адзінства. І гэта з'ява натуральная. Калі ідзе змаганне з адным ворагам, тады выступае еднасць, калі вораг знікае, людзі ў далейшым дзейнічаюць як у імпэце. Прагнуць барацьбы. А ў сувязі з тым, што аб'ект супольнай нянавісці знік, пачынаюць ненавідзець самі сябе. Як ілюстрацыя да сказанага мною можа быць сітуацыя ў Польшчы. Калі „Салідарнасць" змагалася з марксістамі, была маналітам; калі перамагла, падзялілася на цэлы рад арыентацый, якія вядуць паміж сабою вострую барацьбу. Аднак гэта ўсё не перакрэслівае натуральнасці і лагічнасці ўзнікнення многіх апазіцыйных арганізацый у Беларусі. На працягу сямідзесяці гадоў не было ў БССР свабоднага палітычнага жыцця. Праводзілася ў гэты час бяспрыкладная дэнацыяналізацыя беларусаў, існавала толькі адна партыя, якая была найлепшай і найразумнейшай. Такі ненатуральны стан рэчаў мусіў давесці да крызісу. У яго выніку маем дачыненне з зараджэннем і развіццём беларускіх нацыянальных арганізацый і партый. Колькі іх узнікне — не ведаем. Можна думаць, што многа. І гэта добра. Калі б узнікла толькі адна : перамагла, дык праз пяць-дзесяць гадоў зноў аказалася б, што маем дачыненне з адзінай найлепшай і найразумнейшай. І зразумела, што гэтая найлепшая і найразумнейшая зноў павяла б краіну да бяды.

Сёння, аднак, хачу гаварыць аб чымсьці іншым, чым аб партыйным плюралізме і яго перспектывах у Беларусі.

І так узнікаюць незалежніцкія партыі і арганізацыі. Узнікаюць без вопыту, без практыкі і, галоўнае, без грошай.

У Беларусі няма багатых спонсараў, якія маглі б і хацелі б выкідваць на дзейнасць такіх партый і арганізацый вялікія грошы. Народ таксама не скінецца на іх дзейнасць. Дзе ратунак? Ён на Захадзе. Некаторыя апазіцыйна настроеныя беларусы вялі са мной асцярожныя размовы з мэтай даведацца, чым „пахне" беларуская эміграцыя і якую праграму яна была б гатова падтрымаць. Зразумела, што мае рады ў гэтай галіне вельмі мала карысныя. Я не палітык і ніхто з эмігрантаў мяне не ўпаўнаважыў да якіх-небудзь абяцанак ці інфармацый у гэтай галіне. Зрэшты, кожны беларускі дзеяч ведае, што беларуская эміграцыя была і ёсць праціўнікам усяго таго, што звязана з СССР. На працягу дзесяткаў гадоў вяла яна барацьбу з русіфікацыяй Беларусі і з усёй сталінскай сістэмай, як гаспадарчай, так і ідэалагічнай. Значыць, беларускія апазіцыйныя дзеячы разумеюць, што маральную, палітычную і, быць можа, фінансавую дапамогу з боку эміграцыі можна будзе атрымаць толькі тады, калі будуць яны рэалізаваць палітыку, падобную да эміграцыйнай. І вось таму некаторыя дзеячы апрацоўваюць вельмі прыгожыя праграмы, арганізоўваюць дутыя мерапрыемствы, падаюць фальшывыя дадзеныя аб колькасці сваіх членаў, прыхільнікаў і аб сваіх уплывах і шлюць цудоўныя інфармацыі аб сваёй дзейнасці, лічачы пры гэтым на шчодрую дапамогу. Ці яе атрымліваюць, не ведаю. Я б не здзівіўся, калі б атрымлівалі. Здаецца мне, што за гэта не павінны мець прэтэнзіі афіцыйныя савецкія ўлады. Справа ў тым, што Савецкі Саюз ад пачатку свайго існавання фінансаваў за мяжой тыя сістэмы і тыя партыі, якія вялі карысную, з яго пункту гледжання, палітыку і дзейнасць.

Пры гэтым усё ж такі хачу сказаць і сваё „аднак". Справа ў тым, што кожная партыя ці арганізацыя раней ці пазней згіне, калі не знойдзе шляху да народных сэрцаў і розуму, а што за гэтым ідзе, і да народных грошай. Лёс кіруючых партый у краінах народнай дэмакратыі сведчыць аб гэтым найлепш. Карыстаючыся народнымі грашыма без згоды на гэта з боку народа, прыйшлі яны да таго стану, да якога прыйшлі.

Зразумела, што мой артыкул не будзе мець ніякага ўплыву на рэчаіснасць. Будова пацёмкінскіх вёсак у палітыцы будзе буйна развівацца і ў будучыні. І толькі пазнейшы вецер гісторыі здзьмухне іх з паверхні зямлі.

Сказанае датычыць не толькі БССР, але і Беласточчыны, бо і ў нас з цягам часу народзіцца плюралістычнае палітычнае жыццё, якое гарантуе сапраўдную дэмакратыю.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Прэзідэнцкая кампанія ў разгары. Лех Валэнса** сустрэўся з выбаршчыкамі ў Беластоку. Перад палацам Браніцкіх сабралася пяць тысяч чалавек. Кандыдат на прэзідэнта цэлую гадзіну адказваў на пытанні беластаччан.

**Кандыдат на прэзідэнта Уладзімір Цімашэвіч** сустрэўся ў Рыбалах з сялянамі з усходніх гмін Беласточчыны. Потым наведаў ён Грабарку і перадаў 5 мільёнаў злотых, сабраных ад сваіх прыхільнікаў, на адбудову спаленай царквы.

**Беластоцкая гарадская рада прысудзіла званне ганаровага грамадзяніна Беластока Леху Валэнсу і Рышарду Качароўскаму** — прэзідэнту Рэчыпаспалітай Польскай у эміграцыі. Р. Качароўскі з'яўляецца ўраджэнцам Беластока і пасля перадачы сваёй улады выбранаму народам прэзідэнту хоча вярнуцца ў родны горад.

**Ваяводскі выбарчы камітэт Уладзіміра Цімашэвіча** арганізаваўся ў Беластоку, а яго старшынёю выбраны **Вітальд Карчэўскі**. У склад камітэта ўваходзіць і **Янка Зенюк** — дырэктар Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі, шматгадовы дзеяч БГКТ.

**Епіскапы каталіцкай архіепархіі ў Беластоку Эдуард Кісель і Эдуард Азароўскі зрабілі візіт праваслаўнаму архіепіскапу беластоцкаму і гданьскаму Саву.** У час сустрэчы яму было даручана афіцыйнае запрашэнне на імшу, якую 5 чэрвеня 1991 г. у Беластоку адправіць **папа Ян Павел II**. Іерархі абмяркоўвалі таксама дэталі сустрэчы папы з прадстаўнікамі Праваслаўнай царквы.

**Беластоцкая вячорка „Кур'ер Падляшскі"** будзе перададзена кааператыву, створанаму журналістамі гэтай газеты. Савет Міністраў адобрыў ужо план упарадкавання маёнтку РСВ „Прэса-Кніжка-Рух", прадстаўлены ліквідацыйнай камісіяй.

**Ліст у справе перадачы „Газеты Вспулчэснай"** журналісцкаму кааператыву накіравалі прэм'ер-міністру **Тадэвушу Мазавецкаму** паслы Беластоцкай зямлі **Уладзімір Цімашэвіч** і **Януш Шыманскі.** Ліквідацыйная камісія вырашыла газету прадаць на аўкцыёне.

**Новым рэктарам Медыцынскай акадэміі ў Беластоку выбраны прафесар Анджэй Каліцінскі** — сенатар, старшыня Польскага камітэта „Дзеці Чарнобыля". **Рэктарам Беластоцкай палітэхнікі паўторна выбралі прафесара Казімежа Пяньkоўскага.**

**Закончылася пратэстацыйная акцыя студэнтаў** філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, а яе прычынай было невыплачванне стыпендыяў за IV квартал г.г. Пасля перагавораў улады абяцалі перадаць філіялу ВУ каля аднаго мільярда злотых у стыпендыяльны фонд.

**Апеляцыйны суд** пачаў сваю дзейнасць у Беластоку і будзе ён выконваць ролю Вярхоўнага суда для паўночна-ўсходняга рэгіёна. Ва ўрачыстым адкрыцці суда ўдзельнічаў міністр справядлівасці **Аляксандр Бэнткоўскі.**

**Міністр сувязі Ежы Слезак,** які з'яўляецца паслом ад Беласточчыны, дзяжурыў у пасольскім бюро ў Беластоку. Да міністра-пасла нельга было ў гэты дзень дазваніцца, бо... папсаваліся тэлефоны.

# Што гэта значыць?

**(Працяг са стар. 1)**

у Еўропу яшчэ не падрыхтаваная. Еўропа, прынамсі ў геаграфічным і палітычным аспектах, не канчаецца на ўсходняй мяжы Польшчы. За ўсходняй мяжою Польшчы нараджаюцца ў пакутах маладыя суверэнныя дзяржаўныя арганізмы — суседзі Рэчыпаспалітай. І дачыненні з імі будуць для Польшчы лакмусавай паперкай, што вызначае ступень „еўрапеізацыі" дзяржавы, яе прыгоднасць Еўропе. У Еўропу не прымаюць „еўрапеізаваных", так бы мовіць, адным бокам. Нельга з аднаго боку выстаўляць сябе дэмакратам, а з другога далей спаглядаць праз „імперыяльныя акуляры", нацэленыя на Маскву па-над Мінскам. Змянілася „палітычная оптыка"... Грамадская свядомасць у Польшчы — яшчэ не...

Мінск падаў першы сігнал вышэй спамянутае змены. Гэты сігнал быў успрыняты ў Польшчы амаль як гарматны залп.

Мінск ставіць першыя крокі ў самастойнай замежнай палітыцы. І хоча быць трактаваны як партнёр у той палітыцы, а не як часовая прайва палітычнага фальклору на абломках струхлелай імперыі. Абсалютна лагічным і апраўданым, у такім выпадку, з'яўляецца пастава міністра Пятра Краўчанкі адносна савецка-польскага пагаднення з 1945 года. Як жа будаваць новыя дзяржаўныя адносіны, абапіраючыся на рэлікт „дыпламатыі" сталінскіх часоў? Калі так, то, можа, наступным крокам будзе прызнанне законнасці савецка-польскага трактату з 1921 года, што быў падпісаны ў Рызе? Рэлікту ленінскай „дыпламатыі"? Ліквідуючы рэшткі бальшавізму ва ўнутраных справах, трэба ліквідаваць іх і ў вонкавых дачыненнях. Палітычны курс, які намеціўся ў Мінску пасля візіта міністра Скубішэўскага, не пакідае сумнення: Беларусь не намерваецца будаваць свае замежнае палітыкі, як нейкая хімера на „Крэсах Всходніх", якія невядома каму прыналежаць.

А справа Беласточчыны, якая выклікала слоўны панос у беластоцкіх газетах? Тут у беластоцкіх журналістаў задзейнічаў прынцып „падвойнага думання", які так вычарпальна ахарактарызаваў Джордж Оруэль у рамане „1984". Калі польскі ўрад ставіць пытанне аб лёсе польскае нацыянальнае меншасці ў СССР, дык гэта добра і патрыятычна, бо гэта ж суродзічы... А калі на дыпламатычным узроўні Беларусь упершыню (паўтараю — упершыню за сваю гісторыю) звярнула польскаму боку ўвагу на некаторыя адмоўныя аспекты ў існаванні беларуска-польскага этнічнага сумежжа на Беласточчыне — дык гэта што? — нахабства і пасяганне на суверэннасць Польшчы?

Шлях у Еўропу, у прынцыпе, адчынены, хаця шмат яшчэ ўсялякага роду мытняў на некаторых пераездах. Там праверкаюць не толькі, колькі ў цябе грошай у кішэні, але і пасведчанне аб здароўі: вылечыўся ты ад бальшавізму ці яшчэ не? Уражанне такое, што гэтае хваробы хапае па абодвух баках польска-беларускае мяжы. І трэба яе вылечваць па-сапраўднаму, і не імкнуцца выпісваць сабе фальшывыя пасведчанні аб выздараўленні.

**Ян Максімюк**

# ПЯСНЯР БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

Творчасць польска-беларускага паэта з апалячанай беларускай сям'і Уладзіслава Сыракомлі (сапр. Людвік Кандратовіч; 1823—1862) не перастае цікавіць вучоных. Ужо ў 1983 г. на Беларусі з'явілася манаграфія Уладзіміра Мархеля „Лірнік вясковы. Сыракомля ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні“, у якой упершыню ў беларускім літаратуразнаўстве раскрывалася роля паэта ў станаўленні новай беларускай літаратуры. Нядаўна Алег Лойка ў сваім другім, дапрацаваным і дапоўненым выданні „Гісторыі беларускай літаратуры“ (Мінск, 1989) прысвяціў ураджэнцу Смольгава, што на Бабруйшчыне, асобны падраздзел. І вось з акадэмічнай серыі „Нашыя славутыя землякі“ свет убачыла новая кніжка Уладзіміра Мархеля пра Уладзіслава Сыракомлю „Вяшчун славы і волі“*).

Кніга складаецца з сямі раздзелаў, пачынаючы ад „Маленства на колах“ паэта, да жыццядзейную „Памяць нашчадкаў“, пра якую так прыгожа пісаў Янка Купала:

„Будзеш жыць! Будуць векі ісці за вякамі, —
Не забудуцца дум тваіх словы,
Як і слоў беларускіх, жывучы між намі,
Не забыўся ты, Лірнік вясковы“.

Аўтар прасочвае радаслоўную, маленства і дзяцінства малога Кандратовіча гербу Сыракомля, яго вучобу ў павятовай школе пры дамініканскім кляштары ў Нясвіжы з „цвёрдай дамініканскай дысцыплінай“ у 1833—1835 г.г., а затым у той самай школе ў Навагрудку, у якой у 1807—1815 гадах вучыліся Адам Міцкевіч і адзін з першых беларускіх паэтаў Ян Чачот, службу ў канцылярыі кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі ізноў жа ў Нясвіжы, арандатарства ў Залучы пасля жаніцьбы будучага паэта ў 1844 г. з Паўлінай Мітрашэўскай. Мабыць, „залучанскі кругабег“ Прынямоння адыграў рашаючую ролю ў пранікненні Кандратовічам душы беларускага селяніна. Неўзабаве, яшчэ ў 1844 г., прадвызначыла гэта ягоны літаратурны дэбют у рэдагаваным „ліцвіном“ Юзафам Крашэўскім віленскім часопісе „Атэнэум“. Ад гэтага часу літаратурнае прызнанне маладога Людвіка бесперапынна расло, а Залуча да пераезду ў 1852 г. Уладзіслава Сыракомлі ў Вільню стала своеасаблівым цэнтрам мастацкага жыцця і такой жа, відаць, школай для запрошанага сюды жыць сакратара-памочніка вясковага лірніка, маладога яшчэ тады настаўніка Вінцэся Каратынскага (1831-1891).



У Вільні, сталіцы краю, Уладзіслаў Сыракомля аказаўся ў зеніце славы. Ягоныя кнігі выходзяць у Пецярбурзе і Вільні, выступае ён і ў варшаўскім друку.

Разрыў з Прынямоннем і вясковым асяроддзем прымушае, аднак, паэта пасяліцца ў фальварку Барэйкаўшчына, што па дарозе з Вільні на Ашмяны, у які ён пераехаў у 1853 г. Тут у ягонай творчасці ўзмацняюцца грамадзянскія матывы.

Патрыятызм „Лірніка Літвы“ (г. зн. Беларусі) не дазволіў яму пераехаць на сталае месцажыхарства ў Варшаву, у якой перад ім паўстала спакушальная магчымасць стаць рэдактарам „Gazety Codziennej“. Як пісаў паэт Адаму Плугу: „Сум па радзіме, па сваіх, па Вільні забіў бы мяне“. „Лірнік вясковы“ вывучае „сталіцу правінцыі“ Мінск, у адрозненні ад Вільні, якую лічыць ён „сталіцай краю“. Тут у 1859 г. ставіцца ягоная п'еса „Соф'я, князёўна Слуцкая“.

У раздзелах „На мінскім Парнасе“, „Насустрач народу“, „Напярэдадні буры“ Мархель прасочвае літаратурную дзейнасць Кандратовіча, у тым ліку і ягоную беларускамоўную творчасць: верш „Добрыя весці“, надрукаваны ў беларускай агітацыйнай брашуры „Гутарка старога дзеда“ напярэдадні паўстання 1863—64 г.г. у падпольнай друкарні ў Беластоку (другім з захаваных быў „Ужо птушкі пяюць усюды“), а таксама інтымнае і грамадска-палітычнае жыццё. За сваю дзейнасць паэт быў арыштаваны 30 красавіка 1861 г. у Сувалках, калі вяртаўся з канспіратыўнага падарожжа з Варшавы на радзіму. Хворы на сухоты, памёр 15 верасня 1862 г.

Трэба згадзіцца з У. Мархелем, што ўся творчасць беларускага паэта-дэмакрата, звязаная праз тэматыку і фальклор, а таксама выяўленне мясцовага генатыпу, з Беларуссю, быццам бы назапашвала энергію, каб „вось-вось адрадзіцца ў форме беларускай мовы і трапіць, як хацеў ён таго сам, пад стрэхі „братоў у капоце і братоў у сярмязе“. Невыпадкова ж Янка Купала лічыў яго першым з польскіх паэтаў, якія найбольш паўплывалі на ягоную творчасць. Вядомы польскі літаратуразнаўца А. Брукнер у сваіх меркаваннях пра творчасць Сыракомлі ішоў яшчэ далей: „гэта сапраўдная беларуская кроў“ (!). Добра сталася, што на сучасным этапе гэтая „кроў“, дзякуючы такім даследчыкам як Уладзімір Мархель, становіцца каштоўным здабыткам усяго беларускага народа, штораз шырэй уваходзіць у яго нацыянальны кровазварот, без якога немагчымае існаванне ніводнай нацыі.

**Юры Трачук**

*) У. І. Мархель, Вяшчун славы і волі. Уладзіслаў Сыракомля, „Навука і тэхніка“, Мінск 1989, сс. 62.




## ЦІ БУДУЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ПАСЛЫ?

**Пад такім загалоўкам надрукавалі мы ў 40 нумары „Нівы“ ліст БДА Маршалку Сейма і адказ на яго. Тэкст гэты быў прычынай палемічнага выступлення гайнаўскай „Салідарнасці“ да Маршалка Сейма, а копія гэтага пісьма была даслана нам у рэдакцыю дзеля апублікавання.**

**PAN
MARSZAŁEK
SEJMU
RZECZYPOSPOLITEJ
POLSKIEJ**

Niniejszym uprzejmie informujemy, iż w numerze 40-tym białoruskiego czasopisma „Niwa“ z dnia 7. X. 1990 r. ukazał się tekst listu, skierowanego do Pana Marszałka przez Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne w dniu 15. 09. 1990 r. podpisany przez Przewodniczącego Rady Głównej BZD pana Sokrata Janowicza i Koordynatora Zarządu Krajowego BZD Wiktora Stachwiuka. List ten jest niezmiernie tendencyjny i zapewne nie reprezentuje zdania większości Białorusinów, zamieszkałych na terenie Rzeczypospolitej Polskiej. Już sam zwrot „areał etnicznie niepolski“ budzi sprzeciw, ale niech głos w tym akapicie listu zabiorą historycy.

Wielce niesprawiedliwe jest również stwierdzenie dotyczące obsady stanowisk w nowotworzonych Urzędach Rejonowych. Rejon w Hajnówce zatrudnia ok. 75% pracowników wyznania prawosławnego. Rzecz w tym, że żaden z zainteresowanych w kwestionariuszu osobowym nie wpisał narodowości białoruskiej.

A tak na marginesie ciekawi jesteśmy, jaką politykę kadrową prowadziłby pan poseł Siemieniuk, popierany na stanowisko Kierownika Urzędu Rejonowego w Hajnówce przez Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne? Do czasu „Okrągłego Stołu“ ok. 80% stanowisk kierowniczych w rejonie Hajnówki obsadzonych było przez Białorusinów i „mniejszość“ polska nie pisała do Parlamentu oponujących petycji.

Panie Marszałku!

Wielokrotnie ludzie skupieni wokół ideałów „Solidarności“ starali się przyciągać do siebie Białorusinów. Nie miała być to współpraca na zasadzie „coś za coś“, ale „wspólnie decydujemy o tym, co można na tym terenie zmienić na lepsze“. Jednakże, z żalem przyszło nam stwierdzić, że ci Białorusini, którzy postanowili współtworzyć Rzeczypospolitą Polską opartą o ethos „Solidarności“, zostali natychmiast definitywnie zanegowani przez białoruskie ośrodki decydenckie, a także — różnymi metodami — przez część — mieszkających tu społecznoś-

(Працяг на стар. 5)

# БЕЛАРУСКІЯ САМВЫДАТЫ

### ВЫСТАЎКА Ў ЛОДЗІ

Дзякуючы стараннем мастака Міколы Давідзюка і лодзінскага аддзела Таварыства „Памост“ у бібліятэцы Лодзінскага універсітэта (пачынаючы з 12 кастрычніка) была адкрыта выстаўка беларускіх неафіцыйных выданняў — „самвыдатаў“ (тое, што ў Польшчы мае назву „drugi obieg“). Зараз у дачыненні да такога роду выданняў часцей стасуецца назва „незалежныя выданні“ або „незалежны друк“. На выстаўцы паказаны выданні перыядычнага характару (часопісы і газеты) ды шмат аказіянальных друкаў, брашураў, зборнікаў песень і паэзіі. Не пасягаючы на поўную прэзентацыю беларускай незалежнай (непадцэнзурнай) выдавецкай актыўнасці, выстаўка усё-такі надзвычай добра (у гістарычным і тэматычным кантэкстах) адлюстроўвае асноўныя шляхі яе развіцця. Варта тут нагадаць, што пачатак беларускім незалежным выданням дадзены якраз у Беластоку Беларускім незалежным выдавецтвам, якое ў 1981 годзе выпусціла першы нумар „Беларускіх Дакументаў“ (потым, у 1981-83 г.г., выйшлі тры наступныя нумары). Што датычыць Беласточчыны, дык яе „самавыдатаўскі“ ўклад прадстаўлены на выстаўцы амаль вычарпальна. Для Беласточчыны этап „самвыдатаў“ можна лічыць ужо пройдзеным: зараз можна выдаваць усё і ўсім, а да таго ж афіцыйна, абы толькі грошы. На Беларусі далей яшчэ выданні распадзяляюцца на афіцыйныя (зарэгістраваныя) і „нефармальныя“. Пачатак незалежнага друку трэба звязваць з выданнем „Бурачок“, якое паявілася ў Мінску ў канцы 1986 або ў пачатку 1987. Буйны рост нефармальнай выдавецкай актыўнасці наступіў у канцы 1988 г., пасля стварэння аргкамітэта БНФ „Адраджэнне“. На выстаўцы прадстаўлены асноўныя выданні БНФ („цэнтральныя“) і некаторыя „правінцыяльныя“ (выдавецкія органы паасобных груп падтрымкі БНФ) ды выданні маладзёжнай адраджэнскай плыні. Выстаўку трэба вітаць як надта карыснае мерапрыемства, якое знаёміць польскае асяроддзе з адным з важнейшых фактараў беларускага нацыянальнага прабуджэння і адраджэння — з незалежным беларускім словам. І трэба павіншаваць галоўнага аніматара выстаўкі — мастака Міколу Давідзюка (ён жа і ўкладальнік каталога выстаўкі) — з поспехам.

(ям)

## САКРАТ ЯНОВІЧ
# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**(20)**

Геапалітычнае становішча будучай (незалежнай) Беларусі вельмі нагадвае дылемы Польшчы, якая выкручваецца паміж галіятамі Нямеччыны і Расіі. Масква цвёрда захоча бачыць Мінск у ролі свайго сатэліта. Бельведэр не зможа зноў стацца канкурэнтам Крамлю, але напэўна спрабуе эканамічнай і культурнай пенетрацыі (асабліва ў заходніх, перадмінскіх рэгіёнах). Ёсць канцэпцыя знайсці месца для Беларусі ў балтыйска-чарнаморскай паласе дзяржаваў, ад Эстоніі да Украіны. Гістарычна гэта было б паўтарэннем тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Аднак жа тады, у мінулым, на поўдзень ад Палесся прасціраўся ўсяго казацкі стэп і дзе-нідзе галотныя мястэчкі, рабаваныя бандытамі... А на паўночным захадзе — нямецкія каланізатары толькі браліся ўбудоўваць свае „бургі" ў затоках латышскіх і эстонскіх рыбакоў. Сёння там бруіць еўрапейскасцю, а цёплы Кіеў стаў сталіцаю патэнцыі, роўнай Францыі.

Беларусь ад сваіх полацкіх пачаткаў была павернута тварам да Балтыкі. І там яе натуральныя, і бяспечныя ёй, саюзнікі: Літва, Латвія, Эстонія. Пацалункі з Украінай, праўдападобна, скончацца тым, чым скончыліся нашы рамансы з Польшчай, а потым з Расіяй... Замоцны для нас украінскі брат. Палітыка — гэта не прызнанне ў каханні, а рахунак.

Беларускую незалежнасць пацягне да дна не міжнародная палітыка, з якой клопат у момант распаду СССР не так і вялікі. Эканамічная вынішчанасць плюс чарнобыльская катастрофа, апустыніўшая чвэрць тэрыторыі рэспублікі, стануцца галоўнымі перашкодамі. Маскоўскі цэнтр аб'ектыўна не зацікаўлены ў выратаванні Беларусі, бо застаючыся слабою, яна нікуды не пабяжыць, будзе трымацца рукі „старэйшае сястры". Падацца ж ёй у польскі бок гэтаксама не дасць важнае карысці; Варшава сама трасе пустымі торбамі ды разяўляецца на абяцаныя нямецкія пірагі, намасленыя прытым доларамі. На мой погляд, не мінаваць Беларусі, менавіта, балтыйскай дарогі, перш за ўсё на Рыгу і Талін, каб закантактавацца са Скандынавіяй і багатай еўрапейскай Поўначчу (скажам: пайсці Рагвалодавым шляхам, тысячу гадоў назад праверaным). Украіна ж паімчыць у Еўропу цераз прылеглую венгерскую пушту; невыпадкова першая яе замежная дыпламатычна-гаспадарчая місія днямі апынулася якраз у Будапешце.

Наперадзе беларускай вандроўкі ў самастойнасць ляжаць паднебныя завалы ў выглядзе тэхналагічнай старасці індустрыі і марноты сельскай гаспадаркі. Расійскі і наогул савецкі рынак пакуль што выкупляе ўсё беларускае, нават барахло. Але як доўга пабудзе такі голад на абы-тавар? Расія ж уцякае дапераду, удана вяжучыся з глабальным бізнесам (мае яна што прапанаваць у суполку). Здавалася б, паўазіяцкі Азербайджан, і той наладзіў, во, міжнародны кангрэс гешэфту ў сталічным Баку... А што робіць Мінск, каб не застацца сіратою (якой ніхто не любіць)? Утрымаць адну голую ўладу — гэта сёння катастрофа.

Беларусь са сваім млявым патрыятызмам, як заўсёды, марудзіць ды расчульваецца над сабою. Вельмі пагрозлівая нашаму лёсу такая рыса беларускага нацыянальнага характару! Канчаючы палітычным, але і намёклівым жартам: шкада, што князям Радзівілам нашкодзілі палякі ва ўсталяванні уніі Вялікага княства Літоўскага са Швецыяй! Замест ламаць цяпер галаву над тым, як зрабіцца нам еўрапейцамі, мы імі, звычайна, здаўна ўжо былі б.

**Канец**

# ЛЮДЗІ ДОБРЫЯ

— Была рэарганізацыя ў грамадскай апецы, — кажа **Галена Апольская**, кіраўнік навaўтворанага (17 чэрвеня г.г.) Гмiннага асяродка грамадскай дапамогі ў Нараўцы. — Я сюды прыйшла з Гміны, а **Еля Прусіноўская** была сацыяльным працаўніком у асяродку здароўя. Асталіся там толькі медсёстры. Гмінны асяродак грамадскай апекі з'яўляецца дарадчым органам пры войце.

— Вас толькі дзве на цэлую гміну?

— Ёсць у нас грамадскія апекуны — 23, у кожным салэцтве, і яны нам дапамагаюць. Мы самі не ведаем, што будзе з намі: пакуль што будзем „існаваць" да снежня 1991 г. Невядома, які будзе ў будучым годзе бюджэт. Можа, трэба будзе аблажыць падаткам жыхароў гміны, прадпрыемствы на фонд дапамогі? Была сустрэча ў маі з дырэктарамі прадпрыемстваў, наконт дакормлівання дзяцей. А тыя дырэктары ў такой сітуацыі, што не змогуць ні ў чым дапамагчы! У ПКПСе (польскі камітэт грамадскай дапамогі) таксама цяжка. У гэтым годзе толькі на „суседскую дапамогу" ёсць яшчэ датацыя.

Пакуль што лячэнне бясплатнае, але, праўдападобна, пасля новага года бальніцы будуць даваць рахункі асяродкам грамадскай апекі за пабыўку ў бальніцы іх падапечных. Ужо цяпер адзін дзень у бальніцы каштуе 24 тысячы. Вазьміце толькі ўсіх тых, каму даем успамогу — гэта людзі ўжо нездаровыя, інваліды. Вельмі часта занядужваюць, ляжаць у бальніцах. Была такая падапечная, адзінокая жанчына з Ляшукоў. Накіроўвалі яе ў дом грамадскай апекі для цяжка хворых у Сямяцічах. І была ўжо трэцяя ў чарзе, чакала толькі смерці іншага хворага, бо ж месцаў няма. Праляжала 8 месяцаў у бальніцы і памерла, не дачакаўшыся. Нашыя падапечныя чакаюць свайго месца ў дамах апекі ў Белавежы, у Ялоўцы...

Дапамогу патрабуючым даем розную: апрача фінансавай успамогі даем успамогу на канкрэтную мэту (напрыклад, на адзенне, электрычнасць, харчы...), забяспечваем апеку медсёстраў ПЦК, „суседскую дапамогу", да якой даплачвае ПКПС. Пакуль што няма Палажэння аб грамадскай апецы. Асяродак грамадскай дапамогі дзейнічае на падставе перш за ўсё інструкцый. Ёсць бюджэт, да гэтай пары 172 мільёны ў год. Цяпер дадаюць 22 мільёны на жыллёвыя выдаткі, звязаныя з фондам, які ўвёў міністр Я. Курань. Яму якраз, Міністэрству працы і сацыяльнай палітыкі, падначалены асяродкі грамадскай апекі.

Трэба пастаянна наведваць раён, асяроддзе, шукаць новых патрабуючых. Еля ходзіць, ездзіць роварам, часам карыстаецца карэткай хуткай дапамогі з асяродкаў здароўя. У гміне многа хутароў, і ўсюды трэба даехаць ці дайсці. А да старэйшых людзей неабходная і цярплівасць, і веданне псіхікі старога чалавека.

Бываюць справы, якія датычаць не толькі старых. Было такое дзіця, якое неабходна было аддаць у дом для недаразвітых дзяцей у Засцянках; трэба было таксама чакаць месца. У верасні мелі мы праблему з сям'ёй адзінокай маці. Цэлы час стараліся мы ёй дапамагчы таму, што ніводнае прадпрыемства не хацела прыняць на работу тую жанчыну. Прыйшоў новы дырэктар у Кааператыў сялянскіх паслуг, чалавек „чужы". Папрасілі мы яго, каб даў кабеце працу. Калі пачала працаваць, стала на ногі, і мы ўжо ёю не займаліся. Аказалася, што кааператыў кожны другі месяц высылае частку працаўнікоў у бясплатны водпуск. Жанчына не магла выправіць сына ў сярэднюю школу, не мела грошай яму ні на боты, ні на білет. Мы ўжо праз дзень усё гэта ведалі. Купілі хлопцу патрэбныя рэчы — вопратку, боты...

Дапамагаем аплаціць інтэрнат, часам для дзяцей, якія вучацца ў сярэдняй школе, шукаем кватэру за апеку. Даплачваем мнагадзетным сем'ям да вы-

# ВАЛЭНСА І МЕНШАСЦІ

На прэс-канферэнцыі ў Гданьску галоўны рэдактар „Газеты Вспулчэснай" Анатоль Вакулюк запытаў Леха Валэнсу, ці хацеў бы ён у прэзідэнцкай кампаніі здабыць прыхільнасць нацыянальных меншасцяў для сваёй кандыдатуры.

Старшыня „Салідарнасці" адказаў:

*— Tak, proszę państwa. Bardzo będę zabiegał o pozyskanie. Miałem już pierwsze echa w Wielkopolsce. Tam mówiono, że jest to region, który pięknie się gospodarzy i ona by chciała mieć samodzielność. Uważano, że nie należy iść w tym kierunku. Jeśli Europa się jednoczy, jeśli granice będą tylko znakami na mapie, to my nie możemy iść w odwrotną stronę. To, że dzisiaj nie ułożone są prawa, nie są drożne systemy, niedopuszczane, czy niezauważane mniejszości, to trzeba poprawić system, trzeba otwierać się a nie zamykać. Wszystkie te problemy trzeba widzieć bez granic, bez paszportów. Wtedy w jednej Europie nie będzie tych problemów, wszyscy będziemy na tych samych zasadach. Dziś te problemy są, bo są różnice ekonomiczne, są różnice w decydowaniu, w reprezentowaniu, nie dopracowaliśmy tych rzeczy, to powoduje spięcia.*

*Aby to wszystko usunąć, trzeba mieć zgodę na to, ale zgodę przez uczestnictwo, przez współdecydowanie na miarę możliwości i logiczności. Jeśli będzie dobra wola, zrozumienie epoki, w której żyjemy to nie uważam, że będą problemy z mniejszościami.*

*My mamy być silni i dumni tym, że właśnie mniejszych i słabszych widzimy.*

# Рэха скарынінскіх святкаванняў

У Полацку я хадзіў па святочных вулках і пляцах, сузіраў з іншымі відовішчы на сцэне і не толькі... Вось побач з табою — Францішак і яго жонка, паплечнік Пятро Мсціславец, Мікола Гусоўскі, якому Скарына паказвае свае першадрукі. Гэта — фрагменты са спектакля па п'есе А. Петрашкевіча „Напісанае застаецца".

А колькі радасці можна было пабачыць у людскіх вачах, калі выступалі самадзейнікі і прафесійныя выканаўцы з фальклорнымі песнямі! Хтосьці абыякавы да іх, некаму проста падабаюцца, нехта ж з дзяцінства ўскрылены гэтымі творамі народа, яго талентам. Для ўсіх аднолькава спяваліся гэтыя песні. Талент жа слухача — ва ўменні слухаць і браць штосьці для сябе. Мо ад гэтага няўмення нашая глухата да свайго народна-роднага?

І не толькі няўменне даводзіцца вінаваціць, але і нежаданне слухаць. Гэты нацыянальны нігілізм, як ва ўсю буяе на беларускіх гонях. Прыгадваю часы, калі нацыянальныя сімвалы лічыліся ледзь не нададзе-



*Звон... Ці ўзбудзіць ён нашу памяць?*

Новы будынак дасканала прыстасаваны, аднак, да такога роду мерапрыемстваў. Ёсць тут добрая, сучасная кухня, сталоўка, бар. Калі ты госць — заходзь, бяры што хочаш і еш бясплатна! Калі ты амерыканскі беларус — калі ласка, заплаці.

У фае Беларускага цэнтра не толькі Наталля Арсеннева падпісвала свае кніжкі, але і ішоў бойкі гандаль беларускімі сувенірамі, прывезенымі ў асноўным з Беларусі. Нашы „басаўцы“ таксама не драмалі і выставілі на продаж апошнія нумары „Нівы“, розныя беларускія выданні БГКТ. БАСу патрэбны грошы!

На працягу двух дзён збіраліся ахвяраванні для пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы. Назбіралі, здаецца, больш 5 тысяч долараў. На гэткія справы тут людзі не шкадуюць, шчыра адгукаюцца на нацыянальную бяду беларусаў.

Менавіта за Беларусь найбольш баліць ім сёння сэрца. Шмат гасцей з Савецкага Саюза запрасілі яны і цэлы 13-асабовы калектыў з Мінска „Жывіца“. Ёсць прадстаўнікі таварыства „Радзіма“, якія прымалі на Беларусі калектыў „Васілёк“. Ад Беларускага народнага фронту — афіцыйна запрошаныя Юрка Хадыка і Генадзь Грушавы, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, старшыня камітэта БНФ „Дзеці Чарнобыля“. Аднак жа шмат сяброў Беларускага народнага фронту прыехала сюды і на прыватныя запрашэнні сваякоў і знаёмых. Прыехала Галіна Прыма, дырэктар беларускага дзіцячага садзіка ў Мінску, ёсць і Сяржук Сокалаў-Воюш — найбольш аўтэнтычны сёння беларускі бард, з Ленінграда прыехала цётка Данчыка — Маргарыта Пярова, беларуская дзяячка з рэпрэсіраванай некалі сям'і, паэт Сяргей Панізнік з Мінска, вільнюкі Міраслава Русак і Валянцін Стэх ды многія іншыя. І тое, што нарэшце былі наладжаны блізкія і шчырыя кантакты з Беларуссю, цешыць менавіта найбольш.



Наталля Арсеннева (злева) і Яніна Каханоўская.

Два дні ішоў канцэрт, у якім выступалі і танцавальная група „Васілёк“ з Нью-Йорка, і хор „Васілёк“ з Клійленда (у якім сёння спявае колішняя салістка „Лявоніхі“ Люба Блізнюк), і калектыў з Мінска „Жывіца“, і наша моладзь з Гайнаўскага беларускага ліцэя (Дарэк Мусюк, Каця Башун, Бася Гіншт, Крыся Корх і Аля Юрчук), якія выступілі з паэтычна-музычным мантажом на нацыянальна-патрыятычныя тэмы, чытаў свае вершы паэт Сяргей Панізнік, спявалі Данчык з Лявонам Барткевічам, а таксама Сяржук Сокалаў-Воюш, які закончыў вельмі моцным акцэнтам: „Нам жыць і выжыць да зямлі!“

На заканчэнне XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі была прынята рэзалюцыя, якую публікуем побач. Праца з'езда і прынятая на ім рэзалюцыя сведчаць аб сапраўды сусветным значэнні XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**



Сяржук Сокалаў-Воюш і Аня Бартуль.

## ПОГЛЯДЫ

### ПІСАЦЬ АБЫ-ШТО

Ужо звыш года ў „Ніве“ друкуецца „Кароткі абрыс беларускага пытання“, перакладаны з польскай мовы Аляксандрам Баршчэўскім. Прызнаюся, што выклікала гэта маё здзіўленне ды адначасова ўстрывожыла.

Разумею А. Баршчэўскага, што хоча быць прысутны на старонках нашай газеты, але няўжо няма аб чым яму пісаць: чаму заеўся ён на пераклад тэкстаў, якія не з'яўляюцца да гэтага падрыхтаванымі? „Кароткі абрыс беларускага пытання“ — гэта дасканалая гістарычная крыніца, але толькі крыніца. Падобных апрацаванняў сапраўды вельмі шмат. У Архіве новых актаў у Варшаве гэтага на тоны, аб чым дасканала ведаюць гісторыкі (у тым ліку і беларускія), але ніхто іх не тлумачыць і не публікуе, прынамсі на старонках адзінай беларускай газеты ў Польшчы. Проста шкада месца. „Кароткі абрыс...“ ды падобныя яму апрацаванні патрабуюць прафесійнай гістарычнай крытыкі, выкарыстоўваюцца пры пісанні гістарычных прац, іх верагоднасць і вартаснасць абмяркоўваецца ў дыскусіях гісторыкаў. Нельга іх бескрытычна друкаваць у выданнях, прызначаных непадрыхтаванаму чытачу. Нягледзячы на вялікую гістарычную вартасць, шмат у іх памылак, якіх такі чытач знайсці не зможа. Творацца такім чынам паўпраўды ці гістарычныя міфы, якія вельмі цяжка потым выкараніць.

Думаю, што мая рэпліка нічога тут не зменіць. „Кароткі абрыс...“ друкавацца будзе і далей, прынамсі яшчэ два гады! Пераклад у „Ніве“ ад 21 кастрычніка 1990 года з 76 старонкі, а ўсіх іх у арыгінале — 413, калі не лічыць індэксаў, якія, як мяркую, друкавацца не будуць.

**Ю. Каліна**




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

— 28 —

Дзякуючы такому падзелу міністэрскіх пасад, беларусы складалі ва ўрадзе меншасць. Галоўнай постаццю ва ўрадзе быў Мяснікоў, камісар па вайсковых справах. Па маскоўскаму ўзору была ліквідавана самаўправа і ўся дзяржаўная незалежнасць Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі была толькі фікцыяй.

Дзякуючы перайманню бальшавікамі тэрыторыяў, якія пакінулі немцы, у хуткім часе вялікая частка беларускай этнаграфічнай тэрыторыі апынулася пад уладай Саветаў. З той тэрыторыі толькі частка складалася на так званую Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку. На 189500 квадратных кіламетраў этнаграфічных беларускіх зямель, урад Савецкай Беларусі валодаў толькі 52304 квадратнымі кіламетрамі, на якіх жыло 1 569 647 грамадзян.

Урад Жылуновіча аб'явіў 2.I.1919 года маніфест, у якім заяўляў аб далучэнні Беларусі да федэрацыі вольных народаў Расіі, Латвіі, Літвы і Украіны.

У маніфесце было сказана:

„Працоўныя масы Беларусі з сённяшняга дня становяцца разам з народамі Расіі, Латвіі, Украіны і Літвы рэальнымі і паўнапраўнымі гаспадарамі вольнай і незалежнай Беларускай Сацыялістычнай Рэспублікі. З сённяшняга дня Беларуская Рэспубліка Радаў становіцца рэспублікай працоўнага люду, рабочых, бедных сялян і чырвонаармейцаў Белай Русі“.

Апрача гэтага маніфест заклікаў да барацьбы з палякамі — ворагамі рэвалюцыі і беларускага народа і выключыў па-за права Беларускую Раду і створаны ёю ўрад.

Наступаючы на захад, бальшавіцкія войскі ноччу 5/6 студзеня 1919 года занялі Вільню, Ліду і пайшлі на Гродна.

Заняўшы Вільню, бальшавікі стварылі Літоўскую Сацыялістычную Рэспубліку на чале з Міцкевічам-Капсукасам.

Пасля абвяшчэння пастановы аб незалежнасці Беларусі быў ліквідаваны ўтвораны ў Маскве ў 1917 годзе пасля Першага агульнабеларускага з'езда ў Мінску так званы Беларускі народны камісарыят і замест яго быў утвораны Беларускі пададдзел нацыянальных меншасцей пры Камісарыяце народнай асветы ў Маскве. Пададдзел гэты займаўся амаль выключна рээвакуацыяй беларускіх школ.

Пасля ўтварэння Літоўскай Рэспублікі, пачаліся размовы з мэтай аб'яднання абодвух рэспублік.

27 лютага 1919 года канчаткова былі аб'яднаны Літоўская і Беларуская Рэспублікі Саветаў, пры гэтым была далучана да Рускай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі ўсходняя частка Беларускай рэспублікі, а менавіта Віцебская і Магілёўская губерні.

Новая структура, сфедэраваная з Савецкай Расіяй, пачала называцца Сацыялістычная Рэспубліка Саветаў Літвы і Беларусі (у скарачэнні Літбелрэспубліка). Перыяд гэты трываў да 19 красавіка 1919 года, гэта значыць, да моманту заняцця Вільні польскімі войскамі, і называўся Літбеларускай эрай“,

На працягу досыць кароткага часу камуністы прыступілі да арганізацыі ў Беларусі бальшавіцкай улады.

Былі створаны сельскія саветы. Угрунтоўвалася нянавісць паміж сялянамі і панамі, прыгадваліся даўнія крыўды, узбуджалася ў масах імкненне да помсты і парахункаў. Пад уплывам умелай прапаганды, якая патрапіла выкарыстаць голад зямлі сярод сялян і іх бяду, запылалі польскія маёнткі, палілася польская кроў, пайшлі разам з дымам узнесеныя на працягу вякоў помнікі польскай культуры і мастацтва.

Польскія землеўласнікі для ратавання жыцця мусілі ўцякаць у Польшчу, бо бальшавікі загадалі забіваць усіх большых уладальнікаў разам з сем'ямі. Рабілі так таму, каб не было наследнікаў, якія ў выпадку нейкіх змен маглі б упамінацца ў справе заграбленай зямлі.

Бальшавікі аб'явілі дэкрэт, на падставе якога землі „паноў“ былі нацыяналізаваны, а ўлада над імі была перададзена ў рукі мясцовых сельскіх і фальварчных саветаў. Была праведзена інвентарызацыя ўсяго, што не было спалена або разграблена.

*(Працяг будзе)*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



У школу ў Махнатае „Зорка" трапіла ў той дзень, калі вельмі ўрачыста адбывалася пасаванне першакласнікаў на сапраўдных вучняў. У прысутнасці мам, настаўнікаў і ўсіх вучняў нядаўнія дашкольнікі былі прыняты ў сям'ю вучняў. На памяць аб гэтай падзеі „Зорка" зрабіла ім здымак.

Фота Я. Чэрнякевіч.

НА ШКОЛЬНУЮ СЦЭНУ

Алег Мінкін

# Як Лыска ваўком быў

Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.

ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

*Дэкарацыі тыя ж, што і ў першай дзеі. Толькі над сцэнай замест зорак і месяца — сонца. На ўзгорку, дзе кветкі і трава, пасвяцца дзве гусі і гусак.*

Гусі *(спяваюць).*

Мы вясёлай купкай
Ходзім па траве
І чырвонай дзюбкай
Па травіцы рвем.
На зялёным лузе
Хораша нам жыць...

Гусак.

Ціха! Ціха, гусі!
Хтось да нас бяжыць.

*Злева на сцэну выбягае Лыска. Набліжаецца да гусей.*

Лыска. Здароў, важак-гусак! Дзе ты набіў такі гузак? *(Кратае лапаю гузак на лбе гусака).* Дзе ты наеў такое пуза? *(Казыча гусаку жывот).* Чаму гэта прымоўклі твае гускі? *(Да гусей).* Ну, як ваша жыццё? Што п'яцё? Што ясцё? А я вось ад голаду і знямогі ледзь цягаю ногі. *(Палохае гусей).* Я — воўк-ваўчышча! У мяне хвост, як памялішча! Я вас з'ем! Гаў! Гаў!

Гусак. Ну, з'ясі, дык з'ясі. Але, кажуць у лесе, што ты любіш паслухаць песні. І нават ведаеш усе ноты.

Лыска. Ведаю! Толькі ж есці ахвота! Праспявайце адзін куплет — і абед!

Гусак. Кажуць, ты і сам спяваць мастак.

Лыска. Мастак.

Гусак. Дык зробім, шэры, так: мы загагочам, а ты заплюшчы вочы і лапаю выбівай такт, каб мы не збіліся.

*Лыска закрывае вочы лапамі. Гусі пачынаюць гагатаць і махаць крыламі. Лыска гаўкае і тупае лапаю. Гусі знікаюць за сцэнай.*

Лыска *(адымае лапы ад вачэй, чэша патыліцу).* Ну, вось, падмануў мяне важак-гусак, а казаў, што я — добры спявак. Не, цяпер я ўжо не дамся на падман... *(На ўзгорку з'яўляецца баран).* Во! Сюды якраз бяжыць баран!

*Лыска хаваецца ў траву. Баран з прыскокам набліжаецца да яго.*

Баран *(спявае).*

Хто ні ўбачыць мае рогі,
Той сыходзіць прэч з дарогі!
Нават шэры воўк і той
Здыме брыль перада мной!

*Лыска ўстае з зямлі якраз перад самым Баранам. Той ад нечаканасці аж садзіцца на зямлю.*

Лыска. Здароў, баран кудлаты! Здароў, смялчун рагаты! Я тут трохі прагаладаўся і ўжо сам да цябе сабраўся. Ды вось жа цуд — ты сам тут як тут! *(Палохае).* Я воўк-ваўчышча! У мяне хвост, як памялішча! Вось зараз я цябе за рогі ўхаплю, шкуру на кажух злуплю, а цябе самога з'ем! Гаў! Гаў!

Баран. Ну, з'ясі, дык з'ясі. Але навошта табе час марнаваць? Навошта мяне лупіць ды рваць? Расстаў лепш лапы, ды разяў пашырай зяпу, ды заплюшчы вочы, а я разганюся і сам табе ў жывот ускочу.

Лыска. І то праўда. Неахвота з табой валтузіцца нашча. Стану лепш вось тут ды разяўлю пашчу.

*Лыска закрывае вочы лапамі і разяўляе пашчу. Баран бяжыць на ўзгорак, разганяецца і з разбегу б'е Лыску рагамі ў лоб, а сам бяжыць за сцэну.*

Лыска *(устае, трэ лоб лапаю).* Не ўцямлю, ці я барана глынуў ці мінуў? Ці ён мне ў жывот ускочыў, ці міма праскочыў? *(Стукае лапаю па жываце. За сцэнаю грыміць бубен).* Аднак у жываце, як у бубне, гудзе. Значыцца, у ім пуста... Вох, мне б хоць хлеба лусту. *(Задумваецца).* Пайду да Якубавай хаты — там усялякага недаедку багата. Праверу спярша, можа, у місцы засталося трохі куляша.

*Лыска бяжыць у бок хаты. Пераскоквае цераз плот. З-за хаты выходзіць Свінка. Лыска хаваецца за будку.*

Свінка *(жаласліва спявае).*

(Працяг на стар. 10)

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

## ЛІС І БАБА

Народная казка

Жыла-была на свеце бабка. Бедная, мела яна толькі курыцу з куранятамі. Знясе курыца яечка, вось з бабкі і даволі.

Аднойчы пранюхаў Ліс, дзе ў бабкі куратнік. Панадзіўся па начах куранятак красці.

Цягаў, цягаў, ды так па аднаму ўсіх і перацягаў.

Ніяк не магла бабка яго злавіць.

Нарэшце засталася ў яе адна курыца. Ліс і курыцу сцягнуў.

Тады бабка палец сабе парэзала, на рану солі пасыпала, каб уначы не праспаць і злодзея злавіць.

А ўначы Ліс якраз і наведаўся. Пракраўся цераз двор, залез у куратнік. Тут бабка ўстала, за хвост яго злавіла, ды давай біць. Б'е яна Ліса, а сама курыцу ўспамінае, плача:

— Ах, была ў мяне ды служка —
Беленькая курыца-нясушка!
Галасістая птушка!

Ліс у руках бабчыных выгінаецца, на словы бабчыны адклікаецца:

— Ох, была ў цябе не служка.
А гультайка — курыца-чарнушка!
Не пяюшка, а квактушка!

Бабка прычытае:

— Ах, была красуня белая!
Ах, была карміліца пры хаце!
Ах, усё маё багацце!

А ліс сваё:

— Ох, была худая, чорная!
Ох, і ела шмат яна, гультайка,
А не знесла нават яйка!

Раззлавалася бабка:

— Што ты ўсё чаўпеш пра чорную курыцу ды пра дрэнную, калі я табе кажу пра белую ды пра добрую!

— Праўду кажу, — выкручваецца Ліс, — тое, што ведаю. Можа, я тваёй курыцы і ў вочы не бачыў, а ты мяне б'еш. Можа, і не тваю курыцу я забраў, а другую. Пакажы хоць, якая яна была, твая курыца?

Выпусціла бабка Ліса з рук, каб паказаць, якая ў яе курыца была, вялікая ды добрая. Развяла яна рукі шырока, а Ліс — няма дурных! — і збег ад бабкі далёка-далёка. Толькі яго і бачылі!

Уладзімір Мацвеенка

## ЗАГАДКІ

* ✵ *

Маці дзетак
Паслала да кветак,
Бо ў доміку мала
Салодкага стала.

* ✵ *

Хто зялёнымі вачамі
Грозна бліскае начамі?
Мае пухленькія лапкі,
А на лапках кіпці-драпкі,
Спінку пругка выгінае,
Страх на мышак наганяе?

# малюнкі школьнікаў



**Восень у садзе.** Малявала Марта Якімюк, вучаніца 3 класа з Храбалоў.

## Вершы Віктара Шведа

### МАЛЫ ПАЎЗУН

У класе пачаўся ўрок.
Настаўнік пытае Валодзю:
— Які вось маленькі звярок
Паўзе па зямлі, а не ходзіць?

Які ж гэта звер акурат,
Што поўзае толькі заўсёды?
— Дык гэта ж маленькі мой
брат, —
З душэўнай сказаў асалодай.

### ЧЫТАЕ ВЕЦЕР КНІЖКУ ПЕЦІ

Мама сынка праз вёску
Правесці хоча крышку.
У вулічным кіёску
Купіла яму кніжку.
— Глянь, мама дарагая, —
Азваўся малы Пеця, —
Кніжку маю чытае
Цікаўны надта вецер.

### ГРОЗНЫ САБАКА

— Чаму ты брэшаш так заўзята,
Спаць не даеш людзям
у хатах? —
Сабаку грознага пытаюць.
— Ваўкоў пужаю.

— Чаму ж тады,
дазволь прызнацца,
Трасешся, як у ліхарадцы,
Хвост падтуліў,
у крук сагнуўся?
— Ваўкоў баюся.

(Працяг са стар. 9)

## Як Лыска ваўком быў

Ох, прапаў наш бедны Лыска,
Сябра мой яшчэ з калыскі.
Пэўна, шэранькі ваўчок
Схапіў Лыску за бачок,
Пад лазовы кусцік сеў,
Бедалагу Лыску з'еў.

Лыска *(выскаквае з-за будкі)*. Здароў, Свінка! Здароў, сівая спінка! Па кім слёзы льеш? Ці не ты гэта з'ела мой кулеш?

Свінка *(бяжыць да Лыскі)*. Лыска! Знайшоўся наш Лыска!

Лыска. Ды ты што! Які ж я Лыска! Не падыходзь да мяне блізка! Я воўк-ваўчышча! У мяне хвост, як памялішча! Я цябе з'ем! Гаў! Гаў!

*Лыска набліжаецца да Свінкі. Тая ўцякае, бегае па двары. Лыска за ёю.*

Свінка. Дзядзька Якуб! Выходзь з хаты! Звар'яцеў наш Лыска лупаты!

Дзядзька Якуб *(выбягае з хаты са стрэльбаю)*. Які ж гэта Лыска? Гэта ж воўк! *(Настаўляе на Лыску стрэльбу)*. Ага! Папаўся, шэры злодзей! Чаго тут ходзіш? Чаго шкодзіш?

Лыска *(спалохана)*. Ой, дзядзечка Якуб, не воўк я, Лыска!

Дзядзька Якуб *(усё яшчэ цэліцца ў Лыску)*. Як гэта не воўк? А хто ж ты?

Лыска. Лыска! Лыска я!

Дзядзька Якуб *(да гледачоў)*. Хто гэта, дзеці, Воўк ці Лыска?

Дзеці. Лыска! Лыска!

Свінка. Лыска! Лыска!

Лыска *(вінавата)*. Прабач, дзядзька Якуб, мне. Дай лепш куляшу міску. Болей я не буду спаць — буду хату вартаваць. Дай мне хоць скарынку хлеба.

Дзядзька Якуб *(да гледачоў)*. Ну што, дзеці, даць ці не?

Дзеці. Даць! Даць!

Свінка. Даць! Даць!

*Дзядзька Якуб ідзе ў хату і выносіць бохан хлеба і пляшку малака. Аддае Лыску.*

Лыска *(есць і п'е)*. Вох, як смачна! Я за хлеб табе, дзядзька Якуб, аддзячу.

Дзядзька Якуб *(дастае з-пад крыса вязку абаранкаў, падыходзіць да краю сцэны, да гледачоў)*. Ну вось, дзеці, і скончылася наша казка. Хто глядзеў і слухаў, таму абаранкаў вязка. А хто не слухаў ды па баках зіркаў, таму ад абаранкаў дзірка. *(Частуе абаранкамі гледачоў)*.

**ЗАСЛОНА.**




## РЭЧЫ ДЗІЎНЫЯ І НЕПАЗНАНЫЯ

Колькі таямніц абрушылася на нашыя галовы ў апошні час! Здавалася б, канец асвечанага XX стагоддзя! І раптам — цэлы шэраг неверагодных паведамленняў.

Вось прыклады.

„15 чэрвеня 1988 года ў 21 гадзіну 5 мінут у дзяжурную часць Барысаўскага гарадскога аддзела ўнутраных спраў паступіла паведамленне ад гр. Г. Я. Клімашонка аб тым, што ў доме, дзе ён жыве са сваёю жонкаю, адбываюцца таямнічыя з'явы, звязаныя з самаадвольнымі рухамі розных прадметаў, што знаходзяцца ў кватэры...“

Гэта — урывак з абсалютна афіцыйнага дакумента. З рапарта, які напісаў падпалкоўнік міліцыі, начальнік аддзела ўнутраных спраў горада Барысава. Далей у гэтым дакуменце падрабязна расказваецца пра дзіўныя рэчы.

Гадам раней міліцыі і пажарным з украінскага горада Енакіева таксама давялося змагацца з дзіўнымі і непрыемнымі з'явамі, якія адбываліся ў адной з кватэр шматпавярховага дома. Там не толькі самаадвольна рухаліся і лёталі прадметы, але і загараліся кнігі, вопратка, дываны. Дзесяць разоў гаспадары выклікалі пажарнікаў, і некалькі разоў агонь успыхваў у іх прысутнасці, аднойчы — нават у лазенцы, дзе гарэць яўна не было чаму. Слуп агню шырынёй у паўметра з шумам вырываўся проста са сцяны...

У 1986 годзе з дзіўнымі з'явамі сутыкнулася сям'я Рошчыных, якія жылі ў вёсцы недалёка ад Масквы. Час ад часу іх электралічыльнік пачынаў шалёна круціцца, налічваючы вялізныя сумы грошай. Акрамя таго, па дому лёталі патэльні, сам сабой падаў халадзільнік, адкручваўся водаправодны кран. Цукарніца вылецела на вуліцу праз акно, пакінуўшы ў шкле круглую дзірку. Фізікі, якія даследавалі гэты фенамен, прыйшлі да высновы, што цукарніца, каб не разбіцца пры сутыкненні са шклом, павінна была ляцець з незвычайнай хуткасцю і, пакінуўшы кватэру, павінна была па інерцыі праляцець яшчэ больш за пяць кіламетраў. Знайшлі ж яе ў снезе метрах у трох ад дому...

Што ж гэта за з'ява такая? Ці здаралася нешта такое і раней?

Зазірнем у летапісы мінулых стагоддзяў.

Зімой 1666 года цару Аляксею Міхайлавічу паведамілі, што ў маскоўскай багадзельні пры Іванавым манастыры з'явілася „нячыстая сіла“. Нехта нябачны стукае там удзень і ўначы, крычыць страшным галасам, скідвае жыхароў багадзельні з ложкаў, не даючы ім спаць. Параіўшыся з баярамі, цар паслаў туды вядомага ў той час рэлігійнага дзеяча прападобнага айца Іларыёна. Доўгімі стараннымі малітвамі Іларыёну ўдалося ўлагодзіць „нячыстую сілу“ — больш у багадзельні не стукалі і не крычалі...

А вось што запісаў у сваім дзённіку А. С. Пушкін: „У горадзе шмат гавораць пра дзіўнае здарэнне ў адным з дамоў, што належаць да ведамства прыдворнай стайні: мэбля ўздумала рухацца і скакаць; справа пайшла па начальству. Кн. В. Далгарукаў наладзіў следства. Адзін з чыноўнікаў паклікаў папа, але ў час набажэнства крэслы і сталы не хацелі стаяць смірна“.

А што гавораць вучоныя? Вучоныя думаюць... Існуе ўжо каля двух дзесяткаў розных гіпотэз, але ўсе яны чакаюць пацвярджэння.

**(Паводле „Піянера Беларусі“)**




БССР, 220047, г. Мінск, вул. Герасіменкі, 18, кв. 142. Абрагімовіч Іна.

СССР, 346523, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Баррикадная, 34, кв. 2. Федько Элле.

* * *

СССР, 346527, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Текстильная 12/15. Наташа Нестерова. (16 гадоў).

**АДГАДАНКА**



*Знайдзі дарогу праз гэты лабірынт.*



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

# ПАРОДЫІ

### АГЛЕДЗІНЫ

*Я голас твой прывёз к сабе дамоў...*
**Алесь Бадак**

Я голас твой к сабе дамоў прывёз
Паслухаць даць бацькам сваім
І каб параілі, ці варта лёс
Мне звязваць з голасам такім.
„Як, — запытаў, — ці згодны ажаніць?"
А бацька з маці мне ўсур'ёз:
„Па голасе нам цяжка ацаніць —
Ты б лепш усю яе прывёз..."

**Анатоль Зэкаў**
(„Маладосць", № 8/90)

Турыст прыехаў у Лондан на свята. Ішоў моцны дождж. Запытаў ён насільшчыка:
— Як вы думаеце, колькі будзе трываць такое надвор'е?
— Я не ведаю, сэр, я жыву тут толькі 15 гадоў, — сказаў насільшчык.

* * *

Суддзя ў дантыста:
— Палажыце правую руку на Біблію і прысягніце, што вы вырвеце зуб, і нічога больш.

* * *

— Вы зноў спазніліся на лекцыю, Браўн.
— Так, спадар прафесар. Я праспаў.
— Божа ж мой, вы яшчэ і дома спіце!

* * *

— Вельмі шкада, але яна сказала, што яе няма дома, — гаворыць служанка.
— Цудоўна! Скажыце ёй, што я не прыйшоў, — адказаў містэр Браўн.

*— Мама, ці я прыгожая?*

# НІЎКА

*— Знаеш што? Ты будзеш іх вырабляць, а я прадаваць...*

## шолыкі без цуваў

### З КНІГІ ЯЎРЭЙСКАГА ГУМАРУ

Янкель і Герш едуць у Варшаву за супольнымі інтарэсамі. Раптам у купэ ўрываюцца бандыты і крычаць:
— Рукі ўверх!
Усе падымаюць рукі. Бандыты пачынаюць шнырыць па кішэнях пасажыраў. Янкель звяртаецца да захопнікаў:
— Я вельмі хворы. Ці можна мне апусціць рукі?
Бандыты вырашылі, што стары яўрэй не з'яўляецца небяспечны і згадзіліся.
Тады Янкель вымае з кішэні тысячу злотых і звяртаецца да Герша:
— Вось табе тысяча злотых, якія я табе вінаваты.

* * *

Багаты памешчык паклікаў гандляра Янкеля.
— Слухай, Янкель, патрэбны мне два харты.
— Няма праблемы. Акурат у мяне дзве штукі на продаж. А колькі дасце?
— Дзвесце рублёў.
— Дзвесце рублёў? Вы бадай жартуеце? Гэта немагчыма. Да пабачэння!
— Пачакай, Янкель, колькі хочаш?
— Чатырыста.
— А прыгожыя яны?
— Лепшых нідзе не знойдзеце!
— Ну, то няхай табе будзе чатырыста.
Выйшаўшы ад памешчыка, Янкель сустрэў свайго прыяцеля Сруля і пытаецца:
— Не ведаеш ты часам, што такое харты?

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Добраахвотныя ахвяраванні працаўнікоў Чыгуначнага дэпо ў Чаромсе.

| | | |
|---|---|---|
| 3415. | Аляксандр Свентахоўскі | — 1000 зл. |
| 3416. | Ян Дубковіч (II) | — 150 зл. |
| 3417. | Уладзімір Баранаў | — 2000 зл. |
| 3418. | Леанід Карнэлюк | — 2000 зл. |
| 3419. | Міхал Лашкевіч | — 2000 зл. |
| 3420. | Мікалай Канашук | — 1000 зл. |
| 3421. | Анатоль Аніщчук | — 2000 зл. |
| 3422. | Сцяпан Саўчук | — 2000 зл. |
| 3423. | Уладзімір Буйноўскі | — 1000 зл. |
| 3424. | Мікалай Чыквін | — 2000 зл. |
| 3425. | Ян Міхальчук | — 3000 зл. |
| 3426. | Ян Рошчанка (II) | — 2000 зл. |
| 3427. | Ян Саўчук (I) | — 2000 зл. |
| 3428. | Міхал Дацюк | — 2000 зл. |
| 3429. | Пётр Рожук | — 2000 зл. |
| 3430. | Ілья Маркевіч | — 1000 зл. |

## ПАДПІШЫЦЕСЯ НА „НІВУ"!

Паведамляем нашых чытачоў, што ў **1991 г. экземпляр „Нівы" будзе каштаваць 800 зл.** У сувязі з гэтым зменяцца такса кошты падпіскі.

**У аддзелах „Рух"** падпіска на I квартал каштуе 10400 зл., а з высылкай за граніцу звычайнай поштай — на 100 прац. даражэй (20.800 зл.). Прымаюць яны падпіску на I квартал 1991 г. да 20 лістапада г.г. Грошы на высылку „Нівы" за граніцу трэба пералічваць на наступны рахунак.

**PBK XIII Oddział Warszawa**
**Nr 370044-1195-139-11**
**Centrala Kolportażu Prasy**
**00-958 W-wa, skr. poczt. 12**

**На „Ніву" можна таксама падпісацца і ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве**, якое з'яўляецца выдаўцом нашага тыднёвіка. Грошы на гэтую форму падпіскі трэба пералічваць на рахунак:

**NBP O/O Białystok**
**Nr 5021-3203-132**
**ZG BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11**

Па пераводзе просім зазначыць, на які перыяд заключаецца падпіска.

Кошт падпіскі ў заходнія краіны:
— звычайнай поштай — 5 амерыканскіх долараў на квартал (20 ам. дол. на год);
— авіяпоштай: у ЗША і Канаду — 10 ам. дол. на квартал (40 ам. дол. на год); у Аўстралію — 14 ам. дол. на квартал (56 ам. дол. на год).

Кошт падпіскі ў Польшчы — 19500 зл. на квартал (78.000 зл. на год). Змена цаны падпіскі ў БГКТ можа быць выклікана зменай коштаў паштовай перасылкі.

**РЭДАКЦЫЯ**


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"
ul. Suraska 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1991 r. upływa 20 listopada 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty na I kwartał 1991 r. wynosi 10.400 zł + 3.250 zł za doręczenie. W 1991 r. cena 1 egz. wynosić będzie 800 zł.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— grudzień — 6.500 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.
Zam. 1470/90.